■ Якуб Корсак

## АДМІНІСТРАЦЫЯ “МАГІЛЁЎСКАГА МЕТАЛУРГІЧНАГА ЗАВОДА” ПАЗБАЎЛЯЕЦЦА АД НЯЎГОДНАЙ СУПРАЦОЎНІЦЫ ПРАЗ СУД

**Афіцыйна жанчыну абвінавачваюць у тым, што звесткі пададзеныя ёй у табелі працоўнага часу не супадаюць з графікам працы, што яна ўношала заведама хлусівыя звесткі і запісы ў афіцыйныя дакументы і незаконным шляхам вызваліла ад працы свайго роднага брата Паўла Смалякова, які працуе на гэтым жа прадпрыемстве. Сваёй дзейнасцю яна нібы нанесла страты прадпрыемству ў памеры больш за 1,7 мільёны рублёў.**



Аднак, Наталія Яўга бачыць ў гэтым зусім іншыя прычыны – яна не пагадзілася спісаць вакцыну, а таксама адмовіла ў прыёме на працу вартаўніком родственніка кіраўнічкі дзяржаўнага прафсаюза, у якога быў дыягназ цэрабраніяльны параліч. Пасля гэтага кіраўнічка прафсаюза прыгразіла ёй звальненнем і шматлікімі праблемамі.

Наталія адзначае, што не ўмее карыстацца кампутарам, а таксама не падпісвалася і не была азнаёмлена са сваімі службовымі інструкцыямі, у якіх пазначаецца, што нібы яна павінна весці табель працоўнага часу. Праверка подпіса графалагічнай экспертызай у графе “асоба, якая адказвае за табельны ўлік у падраздзяленні” не здолела ўстанавіць асобу, якой належыць гэты подпіс. Пасля гэтага была праведзена паўторная экспертыза подпіса, на правядзенне якой не было ніякіх законных падстаў, якая ўжо прызнала, што подпіс нібы належыць жанчыне.

Наталія Яўга пісала шматлікія скаргі ў пракуратуру, аднак адтуль так і не дачакалася ніякага адказу, хоць усе дапусцімыя тэрміны, у адпаведнасці з заканадаўствам ужо даўно мінулі.

“Каб бараніць свае правы я наняла адваката, якая дапамагала мне ў гэтым. Мы пісалі скаргі таксама і ў Магілёўскую абласную пракуратуру, Міжраённы следчы аддзел, ва Ўпраўленне Следчага камітэта Магілёўскай вобласці, аднак усе яны не былі разгледжаны, а былі накіраваны ў суд. Справа ў тым, што супраць мяне гэтая справа сфабрыкаваная, бо ў матэрыялах справы няма доказаў, якія пацвярджаюць маю віну – няма афіцыйнага загаду аб маім прызначэнні адказнай за вядзенне табеля працоўнага часу, адсутнічае службовая інструкцыя”, - кажа Наталія.

У жанчыны атрымалася патрапіць на прыём да першага намесніка пракурора Магілёўскай вобласці Німашкова, аднак той не стаў яе слухаць, а толькі прыгразіў, што прыцягне яе да адміністрацыйнай адказнасці за паклёп на супрацоўнікаў следства і пракуратуры, бо яна ўсюды скардзіцца.

Судовае пасяджэнне было прызначана на 9 ліпеня, аднак не адбылося з той прычыны, што Наталія Яўга была на бальнічным.

“6 ліпеня мне патэлефанавала суддзя Таццяна Касцюк з суда Ленінскага раёна Магілёва і сказала, што 9-га чысла я мушу прыйсці ў суд, на што я адказала, што не магу, бо хварэю. Пасля яна пачала мне пагражаць і сказала, што адправіць мяне на прымусовае лячэнне ў магілёўскую турму №4, калі я не з’яўлюся ў суд. Суддзя тэлефанавала майму лекару і прымушала яго закрыць мне бальнічныцы, што я хаваюся ад суда, запужвала лекара праблемамі на працы. Напярэдадні званка суддзі Касцюк у жаночую кансультацыю прыйшлі супрацоўнікі пракуратуры, каб праверыць ці сапраўды я хварэю”, - распавядае жанчына.

## У МАГІЛЁВЕ НА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНСКАЙ ПРАВАЛІЎСЯ АСФАЛЬТ

**У выніку абвала ўтварылася яма памерамі 1,5 на 2,5 метры.**

Па папярэдняй інфармацыі правал асфальту адбыўся ў выніку падмыва грунта вадой з трубы каналізацыі.

Яма была перакрыта, у выніку чаго адбылося істотнае запавольванне руху транспарта.

Трэба адзначыць, што падобныя правалы ў Магілёве адбываюцца не ўпершыню. 17 красавіка мінулага года на праспекце Міра ў яме апынуліся заднія колы мікрааўтобуса, затым 30 красавіка на вуліцы Ляпяшынскага пад асфальт правалілася кола грузавіка, а ўжо 6 чэрвеня на прыпынку “Завод Зеніт” пад асфальт праваліліся заднія колы аўтобуса с пасажырамі. У выніку інцыдэнтаў ніхто не пацярпеў.



НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№74

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 18 ліпеня 2014 г.

Ад РЭДАКЦЫІ

## НАКЛАД ГАЗЕТЫ “НАШ МАГІЛЁЎ” КАНФІСКАВАНЫ МІЛІЦЫЯЙ

**Апошні раз канфіскацыя незалежнага выдання праваахоўнікамі адбывалася каля шасці год назад.**

16 ліпеня, у 0-20 ночы супрацоўнікамі ДАІ недалёка ад вёскі Сумарокава Магілёўскага раёна быў прыпынены аўтамабіль галоўнага рэдактара газеты “НАШ Магілёў” Ігара Барысава.

Супрацоўнікі ДАІ паведамілі журналісту, што на яго аўтамабіль прыйшла арыенціроўка, нібы на ім здзейснена хуліганства ў Бялынічах. Інспектары ДАІ прапанавалі паказаць багажнік, атрымалі адказ, што ў машыне перавозіцца папера, аднак спраўджваць гэта не сталі.

**працяг на стр.3**




На фота Ігар Барысаў

■ svaboda.org

## «БЕЛАРУСЬ ЗАНАДТА ПРАРАСЕЙСКАЯ, КАБ БЫЦЬ МІРАТВОРЦАМ У КАНФЛІКЦЕ ВА ЎКРАІНЕ» — АПЫТАНЬНЕ Ў МАГІЛЁВЕ

**Апытаньне «Свабоды»: «Ці можа Беларусь стаць пасярэднікам у канфлікце Расеі і Ўкраіны?» Адказвалі жыхары Магілёва.**

Малады спадар: «Беларусь задужа прарасейская, каб яе ўспрымалі як незалежную краіну. Таму гэта немагчыма. Яна заўжды будзе прытрымлівацца расейскай палітыкі. Беларусь не самастойная».

Спадар: «А што, ёсьць нейкі канфлікт між Украінай і Расеяй? Памойму, няма ніякага канфлікту. Я ня бачу. Якое можа быць пасярэдніцтва? Украіна няхай сама разьбіраецца са сваімі ўнутранымі праблемамі».

Спадар: «Ды там можа быць кожны міратворцам. А Беларусь пагатоў. Кажуць жа, што мы славяне. Беларусь, можа, і ня мае вялікага аўтарытэту, але ўсё адно можа. Беларусаў жа ва Ўкраіне больш, чым каго. Асабліва на Ўсходзе Ўкраіны. Мае там два браты».

Юнак: «Не, ня можа. Навошта нам туды лезьці? У нас тут усё добра. Там іхныя праблемы. А раптам тут пачнецца тое ж, што і ў іх».

Юнак: «Не, ня можа, бо саюз у нас мытны ёсьць, дый многа ў нашай эканоміцы завязана на Расею. Я б сказаў, што дужа многа. Таму ісьці ўразрэз зь яе палітыкай адносна Ўкраіны з нашага боку было б неразумна».

Спадар: «Можна было б паспрабаваць дапамагчы, бо мы ж славяне. Мы хоць краіна і разьвіцьцёвая, але ж аўтарытэт які-ніякі ёсьць у Беларусі».

Малады спадар: «Беларусь наўрад ці зможа вырашыць канфлікт. Расея можа вырашыць такія пытаньні. А вось Беларусь...»

Малады спадар: «Беларусь ня мае ўплыву на гэты канфлікт ніякага. І ад яе мала што залежыць. Вось і ўсё».

■ TUT.by

## НА МЕСТЕ АВИАКАТАСТРОФЫ МАЛАЙЗИЙСКОГО ЛАЙНЕРА НАШЛИ 181 ТЕЛО - МИД УКРАИНЫ

**В Донецкой области на месте авиакатастрофы гражданского самолета Boeing-777 авиакомпании «Малазийские авиалинии», который выполнял рейсовый полет по маршруту Амстердам - Куала Лумпур, найдено 181 тело.**

Как передает корреспондент УНИАН, об этом сообщил директор департамента консульской службы Министерства иностранных дел Украины Андрей Сибига сегодня на брифинге в Киеве. «По состоянию на сегодняшний день найдено 181 тело», - сообщил он, ссылаясь на проверенные данные Государственной службы по чрезвычайным ситуациям.

Как сообщал УНИАН, 17 июля в 16.20 в небе над Донецкой областью поддерживаемые Россией террористы сбили самолет Boeing-777, который выполнял рейс Амстердам - Куала-Лумпур. Самолет был сбит с зенитно-ракетного комплекса «Бук». По данным Государственной службы Украины по чрезвычайным ситуациям, на борту самолета находились 298 человек, в том числе 15 членов экипажа. СБУ опубликовала записи разговоров террористов, из которых следует, что именно они сбили самолет. В СБУ отметили, что в 16.40 террорист по кличке «Бес» доложил полковнику Главного разведывательного управления ГШ ВС РФ Василию Геранину о том, что казаки сбили самолет. Сначала «Бес» говорит, что это украинский самолет, но потом перезванивает и докладывает, что это гражданский самолет с многочисленными жертвами.



■ Укрінформ

## АМЕРЫКАНСКІ СЕНАТАР МАККЕЙН: КАЛІ РАСІЯ МАЕ ДАЧЫНЕННЕ ДА ЗБІЦЦЯ БОІНГА, НАСТУПСТВАЎ БУДЗЕ НЕ АБЯРЭШСЯ



Амерыканскі сенатар-рэспубліканец Джон Макейн, адзначаючы, што факты будуць устаноўлены ў ходзе расследавання, заявіў: «Але калі апынецца, што гэта вынік дзеянняў або сепаратыстаў, або самой Расіі, якія пераблыталі яго (грамадзянскі борт) з украінскім вайсковым самалётам, я думаю, што наступстваў для іх не абярэшся», — заявіў ён у эфіры амерыканскага тэлеканала MSNBC, перадае ўласны карэспандэнт Укрінформа.

Макейн падкрэсліў, што за апошнія некалькі тыдняў свет даведаўся, «чаго чакаць ад расійцаў або прарасійскіх апалчэнцаў».

На сайце Макейна з'явілася заява з заклікам да неадкладнай ваеннай падтрымкі Украіны.

«Гэта трэба пачаць неадкладна з прадастаўлення зброі, у тым ліку процітанкавых і супрацьпаветраных відаў зброі, пра што ўкраінскае кіраўніцтва неаднаразова прасіла. Гэта ганьба, што адміністрацыя ЗША паранейшаму адмаўляецца дапамагчы нашым украінскім партнёрам ваеннымі магчымасцямі», — падкрэсліў Макейн.



■ Ядвіга Люнтова

## У МАГІЛЁВЕ ПРЭЗЕНТАВАНАЯ КНІГА ГІСТОРЫКА ЮРЫЯ ЮРКЕВІЧА «БАЛАХОЎЦЫ»

**Прэзентацыя кнігі гісторыка Юрыя Юркевіча «Балахоўцы» прайшла 30 чэрвеня ў магілёўскім грамадскім цэнтры «Кола».**

«Асноўнае пасланне гэтай кнігі ў тым, што беларусы за сваю незалежнасць змагаліся; у тым, што гэта незалежнасць і гэта дзяржава, якая існуе, не дадзены беларусам з ласкі Масквы. Уся тая барацьба за дзяржаву не была дарэмнай», — заявіў Юркевіч.

Паводле яго, многія мяркуюць, што беларуская незалежнасць была своеасаблівым культурным праектам Леніна, які абапіраўся на прынцып права нацый на самавызначэнне, але насамрэч гэта не так. «Украінскія камуністычныя дзеячы, а таксама ўкраінскія гісторыкі называюць падзеі 1919—1920 гадоў жорсткім урокам. І гэты жорсткі ўрок барацьбы беларусаў за сваю незалежнасць прымусіў камуністаў і савецкі ўрад пайсці на задавальненне хаця б часткова іх патрабаванняў і стварыць Беларусь як дзяржаву. І сённяшнія грамадзяне Беларусі павінны быць удзячнымі людзям, якія змагаліся, няхай нават за іншыя ідэалы, за іншае ўяўленне Беларусі, але яны змагаліся за Беларусь», — мяркуе гісторык.

Прэзентуючы сваю кнігу магіляўчанам, Юркевіч зазначыў, што яна пісалася на падставе дакументаў з эстонскіх, літоўскіх і беларускіх архіваў. Гісторык зрабіў невялікі экскурс у пачатак XX стагоддзя, пасля таго як знікла Расійская імперыя і на яе абломках з'яўляліся новыя нацыянальныя дзяржавы.

Ацэньваючы ролю ў станаўленні незалежнасці Беларусі ваеннага і палітычнага дзеяча Станіслава Булак-Балаховіча, Юркевіч падкрэсліў, што Балаховіч быў фактарам, якім можна было скарыстацца для пабудовы незалежнай Беларусі. Аднак, на думку гісторыка, у поўнай меры гэты фактар выкарыстаны не быў.

Кніга «Балахоўцы» выйшла ў смаленскім выдавецтве «Інбелкульт» накладам 750 асобнікаў, яе аб'ём 470 старонак.

■ Якуб Корсак

## У МСЦІСЛАВЕ ПРЫ АРХЕАЛАГІЧНЫХ РАСКОПКАХ ЗНАЙШЛІ БЕРАСЦЯНУЮ ГРАМАТУ

**Археолагі адносяць яе да пачатку XII стагоддзя.**

Пра знаходку на замкавай гары паведаміў магілёўскі археолаг Ігар Марзалюк. З яго слоў гэта трэцяя берасцяная грамата, якая знойдзена на тэрыторыі Беларусі.

На ёй маленькі жыхар Мсціслава вучыўся пісаць літары і зрабіў невялікі малюнак.

Акрамя таго падчас раскопак было знойдзена шыферная праслішча з надпісам на кірыліцы, скураны пояс дружыніка, бізантыйскі кубак для віна, які распісаны золатам.

Раскопкі ў Мсціславе будуць працягвацца да канца тыдня.



Яўген Калмач

## У МАГІЛЁВЕ АКТЫВІСТ ПРАФСАЮЗА РЭП ЗАЯЎЛЯЕ ПРА ПАРУШЭННЕ ЯГО КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ПРАВА НА ПРАЦУ

**Актывіст прафсаюза РЭП муляр пятага разраду Аляксей Паўлоўскі, які больш за два гады не можа ўладкавацца на працу па спецыяльнасці, лічыць, што парушана яго канстытуцыйнае права на працу.**




Нагадаем, у лютым 2012 года ААТ «Прамжылбуд» скасавала кантракт з Паўлоўскім. Будаўнік у сваю чаргу заявіў пра шматлікія парушэнні заканадаўства, у прыватнасці аховы працы на будоўлі, і падаў заяву аб датэрміновым скасаванні кантракта з-за невыканання наймальнікам умоў працоўнага пагаднення. У красавіку 2012 года работнік і наймальнік праз суд прыйшлі да міравога пагаднення, згодна з якім у працоўнай кніжцы ў Паўлоўскага ўказана, што кантракт скасаваны з-за парушэння наймальнікам умоў працоўнага дагавора. ААТ «Прамжылбуд» таксама выплаціла Паўлоўскаму грашовую кампенсацыю ў 11 млн. 662 тыс. рублёў.

«Пасля звальнення з «Прамжылбуду» я стаў на ўлік у цэнтр занятасці. На працягу двух гадоў мне было прыблізна сто накіраванняў па працаўладкаванні. Прычым калі накіроўвалі мяне, даведваліся, што ёсць вакансіі. Аднак калі я прыходзіў, у аддзелах кадраў мне заяўлялі, што няма фінансавання, няма згоды калектыву. То разрад у мяне высокі, то маленькі, то ўзялі кагосьці», — расказаў “Нашаму Магілёву” Паўлоўскі.

Паводле актывіста, ён прайшоў прыблізна 20 судоў, абвінавачваючы работадаўцаў, якія адмовілі яму ў працаўладкаванні, у дыскрымінацыі з-за яго грамадскай і палітычнай дзейнасці, адстойвання правоў працоўных. Іскі былі пададзены, у прыватнасці, у дачыненні да магілёўскіх будтрэстаў № 12 і № 17, завода «Электрарухавік», прадпрыемства «Белэнергабуд» і іншых. Аднак ніводзін суд не прызнаў парушэнняў з боку наймальнікаў у адмове працаўладкаваць муляра. Апошні такі суд адбыўся ў канцы чэрвеня.

«Не толькі парушаецца права на працу, але я таксама цярплю здзекі з боку судоў, якія, з’яўляючыся дзяржаўным органам, замест абароны майго права на працу патураюць наймальнікам, якія адмаўляюць мне ў працаўладкаванні», — сказаў Паўлоўскі. Ён адзначыў, што абскарджанні ў Магілёўскі абласны суд рашэнняў першасных судовых інстанцый па правах аб працаўладкаванні ні разу не прынеслі станоўчага для яго выніку. Аднак ён мае намер звяртацца ў суды вышэйшай інстанцыі.

«Чаму для крымінальніка, алкаголіка, дармаеда права на працу ёсць, а чалавек, які займаў першыя месцы ў краіне, у вобласці па кладцы, пазбаўлены магчымасці будаваць людзям дамы якасна, вучыць моладзь. Гэта глупства і з боку кіраўнікоў арганізацыі, і судовых органаў», — упэўнены актывіст.

Паводле яго, ніякай карысці не прынёс і зварот у інспекцыю працы. «Гэта бюракратычная такая арганізацыя, якая ўсялякімі шляхамі спрабуе не расследаваць парушэнні наймальнікаў і не хоча дапамагаць у аднаўленні парушаных правоў работнікаў», — заявіў Паўлоўскі.

Упаўнаважаны прадстаўнік незалежнага прафсаюза РЭП у Магілёўскай вобласці Аляксей Яўгенаў згодны з меркаваннем Паўлоўскага аб парушэнні наймальнікамі яго канстытуцыйнага права на працу. Прычыну ён бачыць у прынцыповай пазіцыі актывіста адносна ўмоў працы і выканання працоўнага заканадаўства. Разам з тым ён выказаў неразуменне пазіцыі судоў, якія могуць абавязаць работадаўцаў узяць на працу Паўлоўскага.

Паводле прафсаюзнага дзеяча, РЭП аказвае Паўлоўскаму маральную і прававую дапамогу.

Згодна з інфармацыяй аб занятасці, размешчанай на сайтах органаў улады, прафесія муляра з’яўляецца адной з найбольш запатрабаваных на рынку працы ў Магілёве і вобласці на працягу апошніх гадоў. На другі тыдзень ліпеня ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Магілёўскага гарвыканкама паведамлялася аб сямі адкрытых вакансіях па гэтай прафесіі.



Станіслаў Дубовік

## У МАГІЛЁВЕ АКТЫВІСТЫ АРГКАМІТЭТА ПА СТВАРЭННІ ПАРТЫІ «БХД» ПРАВОДЗЯЦЬ КАМПАНІЮ «ЗА ЧЫСЦІНЮ ПАВЕТРА»

**У Магілёве актывісты аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» сабралі больш як тысячу подпісаў у межах экалагічнай кампаніі «За чысціню паветра».**




«Патрабаванне, пад якім падпісваюцца грамадзяне, — пачаць грамадскія слуханні па пытаннях дрэннага стану экалогіі ў Магілёве», — расказаў “Нашаму Магілёву” каардынатар аргкамітэта па стварэнні партыі «БХД» у Магілёве Алег Аксёнаў. Паводле яго, збор подпісаў у межах кампаніі пачаўся ў канцы мая.

Апрача таго, актывісты аргкамітэта БХД раздаюць мясцовым жыхарам інфармацыйныя бюлетэні на экалагічную і іншую тэматыку, у якіх ёсць тэлефон гарачай лініі. Актывісты прапаноўваюць магіляўчанам звяртацца, выкарыстоўваючы яго, па хвалюючых пытаннях грамадскага жыцця горада.

Нагадаем, у канцы чэрвеня актывісты аргкамітэта БХД падалі заяўку ў Магілёўскі гарвыканкам аб правядзенні 6 ліпеня пікета, каб звярнуць увагу ўладаў і грамадскасці на экалагічныя праблемы абласнога цэнтра. Аднак, як паведаміў Аксёнаў, гарвыканкам не дазволіў акцыю пратэсту, матывуючы гэта ўказаннем не таго месца правядзення, дзе ў горадзе дазваляюцца такія мерапрыемствы, — стадыён каля ДК завода штучнага валакна імя Куйбышава па вуліцы Чалюскінцаў.

«Калі мы падавалі заяўку, то акрэслілі месцам правядзення «пляцоўку насупраць Драматычнага тэатра або любое ўказанае вамі месца». А ў адказе прыйшло, што забараняем з-за таго, што акрэслілі не тое месца, якое дазваляем. Нонсенс. Мы ж напісалі — якое дазволіце, на тое і згодныя. Спецыяльна такая фармулёўка была выкарыстана. Не, усё роўна забаранілі», — канстатаваў грамадскі актывіст.

Ён паабяцаў, што на працягу тыдня члены аргкамітэта БХД пачнуць раздачу ў Магілёве ўлёткак на тэму экалогіі горада. Апрача таго, прыблізна праз паўтара — два тыдні запланавана правядзенне «экалагічнага» круглага стала сумесна з грамадскай ініцыятывай «Грамадскі магістрат». «Гэты круглы стол стане пачаткам падрыхтоўкі да грамадскіх слуханняў па экалогіі Магілёва. Калі ўлады не захочуць праводзіць гэтыя слуханні, то мы правядзем іх самі», — заявіў Аксёнаў.

Паводле яго, удзел у круглым стале возьмуць незалежныя эколагі.

## НАКЛАД ГАЗЕТЫ “НАШ МАГІЛЁЎ” КАНФІСКАВАНЫ МІЛІЦЫЯЙ (працяг стр.1)

Разам з Ігарам Барысавым у машыне знаходзіўся экс-кандыдат у Прэзідэнты ад Беларускага народнага фронту Рыгор Кастусёў.

Пасля праверкі дакументаў і агляду машыны інспектары прапанавалі праехаць у Магілёўскі РАЎС для разбіральніцтва.

У РАЎСе былі складзены пратаколы апытання і пратакол агляду машыны. Уся друкаваная прадукцыя была канфіскавана. Разам з газетай “НАШ Магілёў” у машыне знаходзіўся і бюлетэнь Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) “Сацыял-дэмакрат”. Агульны наклад незалежных выданняў склаў каля 12 тысяч асобнікаў.

- Відавочна, што газета “НАШ Магілёў” выклікае вялікую ўвагу з боку магілёўскіх чыноўнікаў і праваахоўнікаў. Не сакрэт, што сам старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік выдаў загад любымі сродкамі “сцерці ў парашок” пісак з “НАШага Магілёва”. Верагодна, што яго загад пачаў выконвацца і міліцыя пачала больш пільна сачыць за намі. З іншага боку неўзабаве пройдуць прэзідэнцкія выбары і ўлада традыцыйна зачышчае незалежныя СМІ, - кажа Ігар Барысаў.

Цяпер галоўнага рэдактара “НАШага Магілёва” чакае суда. Яму пагражае штраф у памеры ад 3 да 7,5 мільёнаў рублёў.

Ігар Барысаў адзначае, што нумар газеты быў прысвечаны інфармацыйнай кампаніі “Захаваем стары Магілёў”, якую праводзіць незалежнае выданне.

Мэтай кампаніі з’яўляецца захаваць старыя будынкі горада, якія ўяўляюць сабой архітэктурную каштоўнасць, а таксама спрыяць аднаўленню гісторыка-культурнай спадчыны Магілёва.

Газета “НАШ Магілёў” заснавана ў канцы 2006 года. За часы свайго існавання было выдадзена 74 нумары выдання, працуе сайт gazetanm.eu. Газета піша пра падзеі, якія адбываюцца пераважна ў горадзе, у тым ліку адкрыта крытыкуе як цэнтральную, так і мясцовую ўладу. У 2006 і 2007 гадах было канфіскавана два нумары незалежнага выдання.

Станіслаў Дубовік

## В МОГИЛЕВСКОЙ ОБЛАСТИ СНИЗИЛИСЬ ПОЧТИ ВСЕ ВИДЫ ПРОИЗВОДСТВА

**Могилевской области в первом полугодии текущего года производство промышленной продукции уменьшилось на 5,2% к уровню января-июня 2013 года. Снижение производства сельхозпродукции составило 2,4%, сообщили в главном статистическом управлении региона.**

Согласно статистическим данным, обрабатывающая промышленность Могилевской области снизила производство на 5%, горнодобывающая — на 3%, а производство и распределение электроэнергии, газа и воды уменьшилось на 6,8% к первому полугодию 2013 года, сообщает БелаПАН.

В текущих ценах объем промышленного производства за шесть месяцев этого года составил 28 240,9 млрд. рублей.

Как отмечают в управлении статистики, в январе-июне 2013 года промышленность региона также произвела продукции меньше, чем в первом полугодии 2012 года. Тогда снижение составило 1,9%.

В первом полугодии 2014 года хозяйствами всех категорий области реализовано скота и птицы на убой (в живом весе) 102,8 тыс. тонн, что на 7,6% больше, чем за аналогичный период прошлого года. Молока произведено 376,6 тыс. тонн (на 2,6% меньше), яиц получено 212,7 млн. штук (на 7,2% меньше).

На 1 июля 2014 года численность крупного рогатого скота в сельскохозяйственных организациях Могилевской области составила 566,8 тыс. голов и по сравнению с соответствующей датой предыдущего года уменьшилась на 1,8%. Поголовье свиней сократилось на 16,5% до 294,8 тыс.

Якуб Корсак

## В МОГИЛЕВЕ СУД НЕ СТАЛ НАКАЗЫВАТЬ ТОРГОВУЮ СЕТЬ «БЕЛМАРКЕТ» ЗА ОГРАНИЧЕНИЕ ПРОДАЖИ ПИВА

**В Могилеве суд Ленинского района 16 июля отклонил иск местного жителя Александра Хамратова, пытавшегося взыскать с ОАО «Восход» (торговая сеть «Белмаркет») 500 тыс. рублей моральной компенсации за ограничение продажи пива.**



31 мая этого года истец в магазине № 99 торговой сети «Белмаркет» в Могилеве намеревался приобрести, среди прочего, пиво безалкогольное «Балтика № 0» и пиво с содержанием спирта около 5%. Однако он увидел объявление, что 31 мая, 11 и 12 июня продажа спиртных и спиртсодержащих напитков производиться не будет. Ограничение на продажу этих товаров в объявлении объяснялось решением Могилевского облисполкома № 354/113 от 23 мая. Впоследствии причинами такого ограничения назывались последний звонок в школах и выпускные вечера. Истец усмотрел в этом ущемление прав потребителя.

«В своем отказе удовлетворить иск судья Юлия Тропынина ссылалась на 122-ую статью Конституции, где указывается, что местные органы власти могут принимать решения, обязательные на данной территории, но если такое решение ущемляет чьи-то права, то оно может быть обжаловано», - рассказал “Нашаму Магілёву” Александр Хамратов.

По его словам, на суде представительница сети «Белмаркет» заявляла, что в магазине не ограничивали продажу безалкогольного пива. «Она говорила, что безалкогольное пиво стояло на двух стеллажах. Один стеллаж был обмотан лентой, а второй был доступен», - рассказал истец.

Он отметил, что на суде не удалось выяснить, каким образом покупка им пива могла нанести кому-либо ущерб и какая связь между ним, как потребителем, и выпускными вечерами в школах.

«Я спрашивал, почему вы не запретили продажу пива выпускникам, несовершеннолетним, как того требует законодательство. Представительница «Белмаркета» говорила, «как мы узнаем, что это выпускники». Я ответил, что я не причем, что они не могут что-то узнать, и не понимаю, почему из-за этого должны нарушаться мои права потребителя. Вопрос остался без ответа», - рассказал Хамратов.

По его утверждению, он намерен обжаловать вчерашнее решение суда Ленинского района Могилева.

Ранее заместитель председателя Могилевского облисполкома Олег Чикида в своем ответе Хамратову утверждал, что предложение властей ограничить в магазинах продажу пива и слабоалкогольных напитков 31 мая носило рекомендательный характер, и субъекты хозяйствования самостоятельно принимали решение об ограничении.



Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ 1 ЛІПЕНЯ НА ДВУХ РЫНКАХ ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ НЕ ВЫЙШЛІ НА ПРАЦУ

**У Магілёве індывідуальныя прадпрымальнікі, якія гандлююць на двух рэчавых рынках — Віленскім і Грабянёўскім, не выйшлі на працу.**




На Віленскім рынку 1 ліпеня было ўстаноўлена ўсяго сем палатак, у якіх гандлявалі прадпрымальнікі, а таксама працавалі толькі некалькі павільёнаў. Паводле ацэнак назіральнікаў, пуставала каля 95% месцаў, на якіх звычайна ідзе гандаль у асноўным вырабамі лёгкай прамысловасці.

«Няма магчымасці працаваць. Патрабуюць такія дакументы, якія нерэальна ўзяць — і сертыфікаты, і накладныя», — заявіў адзін з прадпрымальнікаў, што займаліся тады перапрадажам свайго тавару, Уладзімір.

Паводле яго, у Расіі і Казахстане патрабаванне аб наяўнасці сертыфікатаў адпаведнасці Тэхнічнаму рэгламенту Мытнага саюза адкладзена да 2017 года. «А ў Беларусі гэта патрабуюць ужо цяпер. Узяць жа ў Расіі гэтыя сертыфікаты немагчыма, бо там іх не хочуць даваць», — сказаў прадпрымальнік.

На Грабянёўскім рынку 1 ліпеня было закрыта каля 70% павільёнаў і не працуюць палаткі. «Працаваць можна толькі на рэштках. Адмянілі сертыфікаты і дакументацыю толькі на рэшткі — на тое, што на 1 ліпеня перапісана. Гэта можна прадаваць. Тавар без дакументаў нельга завозіць. Месяц-два — і працы не будзе», — заявіў гандляр Юрый.

«Па вялікім коншце, гэта акцыя пратэсту, але заўтра-паслязаўтра, максімум праз тыдзень, усе выйдуць, таму што гандлёвыя цэнтры працуюць. Няма адзінства, раскол», — адзначыў ён, адказваючы на пытанне, ці з'яўляецца сённяшняе становішча на рынках забастоўкай. Разам з тым аб арганізацыі акцыі прадпрымальнік не змог расказаць, падкрэсліўшы, што сам даведаўся пра яе з інтэрнэта.

Адзначым, што цяпер магілёўскія абласныя ўлады арганізуюць для прадпрымальнікаў так званыя дні опту на вуліцы Калужскай. Закупляць дробныя партыі сваіх тавараў, забяспечаныя ўсімі дакументамі, прапаноўваюць беларускія прадпрыемствы і арганізацыі, якія займаюцца імпартам.

«Яны прапаноўваюць там тавар па такой цане, па якой мы прадаём у розніцу. Выбару там ніякага. Для прадпрымальнікаў гэта не рэальныя цэны. Гэта проста смешна», — заявіла прадпрымальніца Галіна, якая працуе на Віленскім рынку.

«На Калужскай яны прапаноўваюць тавары оптам нават не па такой цане, як я тут прадаю, а даражэй. Хто гэта будзе купляць?» — заявіў у сваю чаргу прадпрымальнік Юрый.

Паводле яго, у вырашэнні праблем прадпрымальнікаў спадзявацца на розныя саветы прадпрымальнікаў, створаныя пры ўладных структурах, не мае сэнсу, бо «яны нічога не вырашаюць, усё вырашаецца ў Мінску».



Нягледзячы на тое, што большая частка прадпрымальнікаў Віленскага і Грабянёўскага рынкаў 1 ліпеня не выйшлі на працу, прадпрымальнікі ў гандлёвых цэнтрах Магілёва, у прыватнасці «Прэстан», «Магніт» і «Панарама» ў той дзень працягвалі працаваць.

Індывідуальныя прадпрымальнікі, што гандлююць у першую чаргу на рынках, кажуць аб немагчымасці выконваць патрабаванні ўказа прэзідэнта № 222. Дакумент набыў моц 1 ліпеня і абавязаў ІП мець сертыфікаты і дакументы на ўсе тавары, якія будуць увозіцца імі ў Беларусь пасля гэтай даты.